ПУЛЬС

## Рыхтуюць "Залаты шлягер"

**Сёлета Міжнародны музычны фестываль "Залаты шлягер" пройдзе ў Магілёве з 1 па 7 лістапада.**

Плануецца, што ў рамках "Залатога шлягера-2001" пройдзе канцэрт "Мама, папа, я — музычная сям'я" з удзелам дынастый папулярных выканаўцаў (Газманавых, Малікавых, Ярмоленкаў, Прэсняковых і іншых), юбілейныя выступленні гурта "ДДТ" і кампазітара Вячаслава Дабрыніна. Акрамя гэтага, у рамках фестывалю будуць арганізаваны канцэрт музычных пародый "Залаты шлягер" усміхаецца", "Залаты шлягер" з берагоў Нявы", "Стагоддзе джаза", "У рытмах дыска", "Рамансіяда-2001" з удзелам Алы Баянавай, Ларысы Галубкінай, Мікалая Слічэнкі і іншых. Мяркуецца, што ў музычным фестывалі "Залаты шлягер" возьмуць удзел прадстаўнікі 25—30 краін. Фестывальныя канцэрты паралельна пройдуць у сталіцы ў Палацы Рэспублікі і канцэртнай зале "Мінск".

**Маша ПЯТРОВА.**

## Будуюць без экалагічнай экспертызы

**Каля 500 аб'ектаў, збудаваных у Беларусі летась, будаваліся без экалагічнай экспертызы.**

Пра гэта паведаміў начальнік спецыяльнай дзяржаўнай экспертызы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Валерый Ганчароў 5 чэрвеня на прэс-канферэнцыі, прысвечанай Сусветнаму дню навакольнага асяроддзя.

Акрамя таго, спецыялісты Мінпрыроды ажыццяўляюць экалагічную экспертызу аб'ектаў, што будуюцца. У выніку падобных праверак, праведзеных летась на 5 тысячах 655 аб'ектах, выяўлена 386, якія будаваліся з парушэннем заключэнняў дзяржаўнай экалагічнай экспертызы, і каля 500 — без такога заключэння. Гэта ў асноўным невялікія аб'екты прыватнага прадпрымальніцтва, а таксама тыя, што будаваліся на ўмовах арэнды тых ці іншых плошчаў. Па выніках гэтай праверкі, экспертамі былі аштрафаваны 657 службовых асоб на суму больш за 8 мільёнаў рублёў.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Успышка алергічнага дэрматыту

**Успышка алергічнага дэрматыту, выкліканага вусенем златагузкі, адзначана ў Драгічынскім раёне. У паліклініку ўсё часцей звяртаюцца людзі са скаргамі на сверб і пачырваненне скуры. Асабліва пацярпелі жыхары вёскі Закозель.**

Падобнае адзначаецца ў Драгічынскім раёне ўжо другі год. Галоўнай прычынай распаўсюджвання вусеня сталі адносна цёплыя зімы і зніжэнне прымянення ядахімікатаў у сельскай гаспадарцы. Вынік — шкоднікі, якія грызуць лісце, агаляюць дрэвы. Вусеняў так шмат, што нярэдка яны падаюць на людзей і выклікаюць вострую алергічную рэакцыю.

На раённай нарадзе, прысвечанай гэтай праблеме, вызначаны меры барацьбы з вусенем. У ліпені-жніўні плануецца арганізаваць збор і знішчэнне павуцінных гнёздаў з вусенямі, а дрэвы — апрацаваць ядахімікатамі.

## Расце колькасць разбойных нападаў

**5 чэрвеня ў міліцыю звярнуўся жыхар вёскі Плоска Брэсцкага раёна. Ён заявіў аб тым, што 4 чэрвеня ў 20 гадзін 30 хвілін каля чыгункі на вуліцы Пуцявой двое невядомых пад пагрозай фізічнага гвалту забралі ў яго веласіпед "Аист". Пакуль не знойдзены ні веласіпед, ні злачынцы.**

4 чэрвеня ў 12 гадзін дня каля ашчаднай касы па вуліцы Леніна, што насупраць аблвыканкама, невядомы вырваў з рук 59-гадовай пенсіянеркі 70 тысяч рублёў. Зламыснік таксама не знойдзены.

30 мая трое невядомых пад пагрозай прымянення фізічнай сілы забралі ў жыхара вёскі Чарнаўчыцы 10 тысяч польскіх злотых (каля 2,5 тысячы долараў ЗША) на мытным пераходзе "Цярэспаль". Мужчына не звяртаўся ў міліцыю, паколькі злачынцы пагражалі распраўай. 4 чэрвеня ён усё ж заявіў пра здарэнне ў праваахоўныя органы. Супрацоўнікам упраўлення камітэта па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і карупцыяй удалося затрымаць аднаго з падазроных у разбоі. Два чалавекі знаходзяцца ў вышуку.

## Масавае заражэнне кароў шаленствам у Пінскім раёне

**У сельскагаспадарчым кааператыўным прадпрыемстве "Ніва" Пінскага раёна Брэсцкай вобласці выяўлена масавае заражэнне кароў шаленствам.**

3—4 чэрвеня ў лясным масіве каля вёскі Барычэвічы былі спалены 6 кароў. Паводле інфармацыі галоўнага ветэрынарнага ўрача вобласці Аляксандра Гарбуза, лабараторныя даследаванні трох з іх пацвердзілі захворванне на шаленства. Няма сумнення, што хворыя былі і астатнія жывёлы, якія здохлі (першая жывёла загінула 30 мая). На наступны дзень спецыялісты райветстанцыі знайшлі на пашы яшчэ тры трупы жывёл, якія вывезлі на жывёламагільнік.

У кантакце з каровамі знаходзіліся каля двух дзесяткаў чалавек. Усе яны зараз праходзяць курс антырабічных прышчэпак. Вакцынацыю прайшоў і калгасны статак. Мяркуецца, што крыніцамі заражэння сталі лісы, якія прыходзяць на пашу.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

## Лес сякуць і аберагаюць

**Эксперымент па паступовых рубках лесу, што праводзіцца ў Смаргонскім лясгасе Гродзенскай вобласці, будзе распаўсюджаны ў сістэме лясной гаспадаркі Беларусі.**

На працягу шэрагу гадоў спецыялісты Мінпрыроды праводзілі ў Смаргонскім лясгасе эксперымент па пад'ёме мінімальнага ўзросту рубкі спелага лесу. Аб'ём паступовых рубак дрэў, якія дасягнулі такога ўзросту, дасягнуў тут 21 працэнта ўсіх рубак. Такі вопыт дазваляе захаваць каштоўныя лясныя масівы, унікальныя ландшафты і павысіць якасць дзелавой драўніны. Як лічаць спецыялісты, укараненне такога вопыту дазволіць зберагчы айчынныя лясы, якія пакрываюць 35 працэнтаў тэрыторыі Беларусі, выконваючы функцыю адмысловых "зялёных лёгкіх".

**Марат ГАРАВЫ.**

# НЕНАВИСТЬ У КРЕСТА

## Пора с ней покончить

*Наша белорусская земля, по существу, является сплошным человеческим кладбищем в центре Европы. Здесь находится только учтенных и захороненных 1 191 336 солдат и офицеров, погибших на войне. А сколько лежит в земле неучтенных людей, зарытых в военной форме в безымянных могилах, а также в штатской одежде и концлагерных лохмотьях! Известно, что за три года Великой Отечественной войны при разных способах уничтожения людей погибло 1400 тысяч наших мирных граждан.*

Эти цифры ошеломляют не только масштабом людских потерь. Потрясает массовая анонимность погребенных. Ведь погибшие в огне войны не просто ушли из жизни. Они исчезли во мраке небытия, бесследно. Ни памяти, ни имени. Поистине мы имеем дело с поколением, которое как бы "выпало" из истории.

О жестоких боях второй мировой войны свидетельствует большое количество военных кладбищ. Самое большое кладбище "Мемориал-Рыленки" размещено возле автомагистрали Брест—Москва в Дубровенском районе Витебской области, где похоронены тысячи бойцов и командиров Красной Армии. А там, где проходила тысячекилометровая полоса немецкой обороны, в земле Беларуси остались лежать более 100 тысяч солдат и офицеров Вермахта. Свыше 200 тысяч их погибло в июне-июле 1944 года при операции "Багратион". В местах массового побоища при летней жаре тогда было не до похорон. Трупы убитых просто зарывали в землю. Например, под Витебском только при первой попытке вырваться из котла окружения, где оказались 5 немецких дивизий, 24 июня 1944 года было убито свыше 3 тысяч солдат и офицеров. А в районе Бобруйска и южнее его во время сражения с 27 по 30 июля 1944 года на поле битвы осталось свыше 60 тысяч трупов немецких солдат.

В начале июля 1944 года восточнее Минска, где были окружены 105 тысяч солдат и офицеров четвертой и девятой немецких армий, было убито 70 тысяч человек.

Во все времена люди соблюдали правило, согласно которому было принято считать, что убитый на поле боя вражеский солдат уже не является врагом. Солдат, скончавшийся от тяжелых ран в страшных предсмертных мучениях, имеет право на могилу.

В европейских странах, где в годы второй мировой войны шли бои, военные кладбища сохранены, а где и были разрушены, теперь восстанавливаются.

На территории Германии уход за могилами советских солдат осуществляет Народный Союз Германии по уходу за захоронениями. Согласно положениям Женевской Конвенции 1949 года, которую подписала Беларусь, и на нашей территории должны сохраняться немецкие кладбища. И не только из-за соблюдения христианских традиций и морали. Десятки тысяч крестов над вражескими могилами будут вызывать чувство гордости у внуков и правнуков за подвиг, совершенный героями Великой Отечественной войны. А урок патриотического воспитания молодежи будет наиболее убедительным и доходчивым, его не заменят вместе взятые абстрактные "зарницы" и походы по заросшим бурьяном местам боевой славы. А родственники тех, кто лежит в могилах под немецкими крестами, после посещения кладбищ непременно расскажут своим соотечественникам о том, чем заканчиваются походы на чужие земли.

Однако на немецкие кладбища однажды пришел с лопатой партийный человек. Он сначала приклеил на перекосившийся забор лозунги с призывами: "Бороться за мир во всем мире" и "Вперед, к победе коммунизма". А затем стал ковырять лопатой землю на могилах. На одном кладбище возвел школу, на втором — теплицы для выращивания овощей, а на третьем — гараж.



Фото IREX/ProMedia.

На территории Германии мало свободной земли. Однако немцы не жалеют земельных участков для воинских захоронений. Там даже сохранены могилы римских завоевателей. Ведь они тоже не отличались гуманизмом.

А кладбища советских солдат и офицеров хорошо обустроены, за могилами организован надлежащий уход. В этом наглядно убедились и члены делегации белорусских ветеранов войны во главе с председателем объединения ветеранов Анатолием Новиковым и представители белорусского парламента. Поездка была совершена в Германию в октябре прошлого года.

Возвратившись в Минск, руководители Белорусской ветеранской организации провели совместное собрание ветеранов Советского и Первомайского районов столицы. Выступая перед собравшимися, председатель Белорусского союза офицеров Дмитрий Иванов и другие члены делегации дали положительную оценку самому факту и результатам ознакомительной поездки в Германию. Делегаты рассказали, что везде, где довелось побывать посланникам мира из Беларуси (так их там называли немцы), со стороны хозяев был оказан теплый прием. Члены делегации лично убедились, что немцы бережно ухаживают за могилами советских солдат и офицеров. Хорошо организован там поиск и восстановление военных захоронений.

После информационных выступлений была оглашена домашней заготовки резолюция, текст которой прозвучал как из далекого прошлого, отголоском известной статьи советского писателя Ильи Эренбурга — "Убей немца". Хотя за резолюцию, от содержания которой веет ветром холодной войны, и проголосовало большинство присутствовавших в зале, однако она имеет не юридическое, а лишь эмоциональное значение.

По замыслу организаторов собрания она предназначена для передачи в парламент с целью оказания на депутатов психологического давления, чтобы повторно торпедировать ратификацию правительственного соглашения между Республикой Беларусь и Федеративной Республикой Германией по уходу за военными могилами.

Говорит инвалид Великой Отечественной войны подполковник в отставке минчанин Иван Ефимович Кобец:

— Уже прошло более полувека, как мы разгромили Рейх. И за преступления, совершенные гитлеровцами в годы той войны, наказаны не только главные военные преступники. Понес наказание и народ Германии, слепо поддерживавший Гитлера и его бредовые идеи. Только на полях сражений против СССР немцы потеряли убитыми, ранеными и пленными 10 миллионов солдат и офицеров. А сколько гражданского населения Германии погибло под обломками зданий от бомбовых ударов при налетах на города американских летающих крепостей и тяжелых советских бомбардировщиков?

Нужно учитывать, что немцы покаялись за свои преступления, а новые поколения, родившиеся после войны, построили новую Германию. Она теперь добровольно оказывает помощь нашему народу. Белорусам — жертвам фашизма — выделили в виде помощи огромную сумму валюты: 894 миллиона марок. Кроме того, оказывают они и гуманитарную помощь лекарствами и медицинским оборудованием для больниц. Поэтому и мы должны пойти им навстречу и разрешить на местах захоронений немецких солдат поставить надмогильные кресты и памятные знаки.

Говорит ветеран Великой Отечественной войны, бывший узник фашистского концлагеря минчанин Иван Иванович Нарчук:

— Мне довелось быть в Германии в 1945 году. А спустя полвека по приглашению администрации музея концлагеря Дахау я снова оказался в Германии. Там возле населенного пункта Хербертсхаузен видел огромное кладбище, где в отдельных и братских могилах похоронены советские военнопленные и узники фашистского концлагеря.

Кладбище хорошо обустроено, немцы бережно ухаживают за могилами. Находясь в Германии, я увидел новое поколение немцев, совсем не похожее на своих предшественников. Оно избавилось от идеологических комплексов и протянуло нам руку дружбы, взаимопонимания и примирения. Однако это не нравится отставным генералам-политологам, которых граждане не избирали в парламент. А чтобы заявить о себе, они, находясь у руководства ветеранской организации, теперь будоражат пожилых людей, поднимая бузу, чтобы снова провалить в парламенте ратификацию Межправительственного соглашения между ФРГ и Республикой Беларусь по уходу за военными могилами.

За легализацию немецких захоронений на территории Беларуси выступают многие ветераны. Основной аргумент — мертвым мы не должны мстить.

**Владимир ШАКУТИН,**
**участник Великой Отечественной войны, заместитель председателя правления Белорусского общественного объединения "Лес", бывший узник фашизма.**

ЖИТЕЙСКАЯ ИСТОРИЯ

## Досоюзились

В последнее время монополизированные государственные СМИ пытаются убедить всех в том, что Союз Беларуси и России состоялся и что простым гражданам остается только ждать всевозможных благ от такого союза. Хотелось бы. Но, увы...

По семейным обстоятельствам необходимо было съездить в Москву. Естественно, понадобились российские деньги. В ближайших обменных пунктах обменять свои "зайцы" на российские рубли я не смог по причине отсутствия последних. Но я по натуре оптимист и особо расстраиваться не стал. Как-никак мне предстояло ехать в столицу союзной нам России.

Утром прибываю в Москву на Белорусский вокзал, не имея в кармане ни единого российского рубля. Сразу же направляюсь в обменный пункт. Поднимаюсь на второй этаж, занимаю очередь. От нечего делать рассматриваю впереди стоящих и сам процесс обмена валюты. Передо мной стоит около десяти человек, которые обменивают свои "литы", "латы", "гривны" и другую валюту на российские рубли. Даже впереди стоящий негр с какой-то банановой республики обменял свои "тугрики" на российские рубли. И вот подходит моя очередь. Я с гордостью подаю наши тысячи. Но тут происходит невероятное. Девушка-оператор брезгливо возвращает мои белорусские деньги и показывает на стену. Я поднимаю голову и читаю под потолком транспарант, написанный крупным шрифтом. "Обмениваем любую валюту, кроме белорусских рублей". Меня это потрясло до состояния шока, я чувствовал себя униженным и оскорбленным, а стоящие за мною клиенты, поняв ситуацию, в которой я оказался, ехидно улыбались. На их лицах я читал мысли: "Ну что, бульбаши, досоюзились? Так вам и надо!". Похоже, и объявление было так кричаще написано и высоко закреплено, чтобы все знали, что ждет тех, кто не дорожит свободой и независимостью своей страны.

Признаюсь, что большего стыда и позора за себя, за свою многострадальную страну я никогда не испытывал... Не удивлюсь, если и дальше продолжится позорная сдача суверенитета и независимости. Тогда при входе в магазин или кинотеатр Москвы вполне может появиться объявление: "Вход разрешен всем, кроме белорусов".

Досоюзились, в общем.

**В.В.СМАРГУН,**
Минск.

ВІНШУЕМ!

## Няўтомная

*Прыйшла добрая вестка: за вялікі асабісты ўклад у развіццё і ўмацаванне беларуска-латвійскіх культурных сувязей прэзідэнт Латвійскай асацыяцыі беларусістаў Мірдза Абала ўзнагароджана медалём Францыска Скарыны. Гэтае высокае ўганараванне — падзяка Мірдзе Эдуардаўне не толькі за яе навуковую, грамадскую дзейнасць, але і за шматгадовую перакладчыцкую работу, усталяванне кантактаў між пісьменніцкімі арганізацыямі Латвіі і Беларусі, самаахвярнае спрыянне многім нашым творцам.*

Яшчэ ў 1967 годзе доктар філалагічных навук, старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мовы і літаратуры Акадэміі навук Латвіі наведала Полацк, прыняла ўдзел ва ўрачыстасцях з нагоды 450-годдзя беларускага кнігадрукавання. У 1969-м суправаджала Яніса Судрабкална ў яго падарожжах па зямлі сяброў. І чым глыбей пазнавала нашых людзей і традыцыі, душу суседзяў, тым усё мацней і мацней прыкіпала да балцка-крывіцкай мацерыковай Беларусі, выяўляла гістарычную роднаснасць, шукаючы карані райнісаўскага пабрацімства. У адным з пісем яна ўсклікнула: "...Вось чаму я ў Беларусі пачуваюся так добра: гэта ж радзіма маіх продкаў!".



Даследуючы творчасць Райніса, Судрабкална пачала перапіску з К.Крапівой, П.Броўкам, М.Танкам, зацікавілася дзейнасцю беларусаў — аўтахтонных жыхароў Латвіі. Сяброўства з У.Караткевічам так зварухнула няўрымслівую Мірдзу, што яна стала перакладчыцай яго цудоўнай "Чазеніі".

Немагчыма пералічыць увесь наробак Мірдзы Эдуардаўны Абала за гэтыя 30 з лішкам гадоў няўтомнай падзвіжніцкай работы на карысць Беларусі. Нездарма свой 75-гадовы юбілей яна прыехала адзначыць у Мінск. Тады, 23 лютага 1998 года, на ўрачыстасцях у Доме дружбы было сказана многа шчырых прызнанняў. Вячаслаў Рагойша назваў Мірдзу Абала "сапраўдным абаронцам нашай Айчыны", бо "яна абараняе наш гонар як народа з самабытнай культурай, яна годна прадстаўляе літаратуру нашай Айчыны ў суседняй краіне". Адам Мальдзіс назваў Мірдзу Эдуардаўну "генеральным консулам беларускай культуры ў Латвіі"...

Удзячныя латышскай Няўтомніцы Рыгор Барадулін, Васіль Сёмуха, а Купалаўскі музей — за распрацоўку тэмы прысутнасці Янкі Купалы ў латышскай культуры і літаратуры. Укленны перад Мірдзай Абала і я за яе невымерную спагаду, шчымлівую рупнасць, жаданне выявіць самы дробны штрых латышска-беларускіх узаемадачыненняў...

У адным з лістоў пасля чарговага наведання Мірдзай Эдуардаўнай Мінска я знайшоў такія словы прызнальнасці: "Вось я зноў вярнулася ў Рыгу. З.Пазьняк кажа: "Вільнюс з даўніх часоў — Мекка для беларусаў. А ў мяне такі лёс, што Меккай для мяне, паводле розных абставін, гэта — Беларусь. І лагоднее на сэрцы, лепш працуецца, калі я хоць крыху пабываю там".

А пабываць у нас шаноўнай спадарыні яшчэ прыйдзецца. Бо чакае свайго выдання галоўная праца Мірдзы Абала — складзены ёю беларуска-латышскі і латышска-беларускі слоўнікі. Святы абавязак дзяржавы Першадрукара — дапамагчы надрукаваць уганараванай медалём імя Першадрукара Кнігу нашай Сумоўнасці.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК,**
**старшыня рады таварыства "Беларусь—Латвія".**

**На здымку:** *Мірдза Абала.*

**Фота аўтара.**

# Разбег "новай эканомікі"

## Ці не праспяць яе нашы ўлады? Ці не з'явіцца яна для іх такой жа нечаканасцю, як падзенне Берлінскай сцяны, развал СССР, арышт Мілошавіча?..

Успамінаецца леташняя сустрэча нашых кнігавыдаўцоў з нямецкімі. Спачатку выступаў прадстаўнік Дзяржкамдруку Беларусі. Ён гаварыў аб праблемах, з якімі даводзіцца сутыкацца. Гэта — рост цэн на паперу і перавозку прадукцыі, недахоп сродкаў на абнаўленне вытворчасці і г.д. Затым слова ўзяў спецыяліст з Берліна і пачаў свой выступ даволі нечакана:

— Нават не ведаю, пра што гаварыць. Бо тое, што я пачуў тут, моцна азадачыла мяне як дакладчыка. У нас даўно няма такіх праблем, якія існуюць у Беларусі. У Германіі стабільныя цэны, стабільны попыт на кнігі, і для нас самае важнае — захаваць існуючую стабільнасць.

Пасля кароткай паўзы ён працягваў.

— Я ўсё-такі раскажу пра нашыя праблемы. Мяркую, рана ці позна, але і вам давядзецца сутыкнуцца з імі...

Госць з Германіі распавёў пра электронны гандаль, які набірае моцы. Пакупнік Нямеччыны праз Інтэрнет заказвае кнігу, выдадзеную ў самым далёкім кутку свету. На экране камп'ютэра ён можа многае прачытаць з таго, што выдаецца ў свеце. Значыць, у яго адпала патрэба часта наведваць бібліятэкі, кніжныя магазіны. Адсюль вынікае, што з часам будзе змяншацца колькасць пакупнікоў у магазінах і ўзрастаць колькасць пакупак праз Інтэрнет.

Адсюль і вынікае шэраг складаных праблем. Зразумела, што кніжных магазінаў паменее. Куды дзець іх прадаўцоў? Раз зменшыцца колькасць кніг, друкуемых на паперы, дык давядзецца звальняць і рабочых. Следам пачнецца скарачэнне працаўнікоў, занятых вырабам паперы і перавозкай яе...

Шлейф праблем выклікае электронны гандаль, безумоўна, вельмі прагрэсіўны і зручны для спецыялістаў і пакупнікоў. Яго ўварванне ў эканоміку многія лічаць пачаткам новай прамыслова-гандлёвай рэвалюцыі.

Сёння 20% насельніцтва Германіі маюць доступ да Інтэрнета, больш за 10 мільёнаў немцаў рэгулярна карыстаюцца яго паслугамі. З дапамогай Інтэрнета ў любы час сутак, у выхадныя і святы, без таўкатні можна купіць практычна ўсё: ад прадуктаў і кніг, да бытавой тэхнікі, аўтамабіляў і пуцёвак у санаторыі. І прадаць таксама ўсё.

Так званая "новая эканоміка", ці "Інтэрнет-эканоміка", набірае хуткі разгон. Па прагнозах вядомага канцэрна Siemens, у 2003 годзе Інтэрнетам будзе карыстацца ў свеце тры чвэрці мільярда чалавек. Выйсці ў сусветную камп'ютэрную сетку можна будзе праз сотавы тэлефон, электронную запісную кніжку. Патэнцыял электроннага мабільнага бізнесу, па прыкідках экспертаў, перавысіць 7 трыльёнаў долараў. Найбольшае развіццё ён атрымае ў ЗША, Еўропе, краінах Азіі. Цікава, што чвэрць заказаў на стварэнне тэлекамунікацыйных сетак канцэрна Siemens паступае з Кітая.

Электронны гандаль пускае свае парасткі і ў Беларусі. У Мінску ўжо можна праз Інтэрнет купіць прадукты, аўтамабілі, іншыя рэчы. Беларускія інтэрнетаўцы вучацца і гандляваць. Прычым яны "спіхваюць" нават неходкія і неканкурэнтаздольныя тавары.

Нашы вытворцы ідуць традыцыйным шляхам — вязуць свае вырабы на вядомыя выставы. Але ж там дэманструюцца апошнія дасягненні. Хіба там пратаўкнеш неканкурэнтаздольную прадукцыю? Для яе рэалізацыі больш падыходзяць нетрадыцыйныя падыходы. І таму праз Інтэрнет можна знайсці пакупнікоў на многія нашыя вырабы. Мяркую, што пара тысяч электронных прадаўцоў змаглі б хутка разгрузіць склады беларускіх прадпрыемстваў і зарабіць многа валюты. Ды такі бізнес у нас моцна заціснуты.

У цывілізаваным свеце ідуць дыскусіі аб шляхах развіцця электроннага гандлю. Адзін з заснавальнікаў вядомага партала yahoo Цім Кугель лічыць, што гадоў праз дзесяць Інтэрнет стане неад'емным элементам паўсядзённага жыцця людзей. Намеснік міністра ФРГ па пытаннях эканамічнага супрацоўніцтва Эрых Стацер падкрэслівае, што бурнае развіццё інфармацыйных тэхналогій на вачах мяняе воблік планеты.

Заходнія філосафы і палітолагі заяўляюць, што мы на парозе "інфармацыйнага грамадства", якое ідзе на змену індустрыяльнаму і постіндустрыяльнаму. Аснову яго складаюць не фабрыкі і заводы (яны ўжо ёсць), а веды, інфармацыя і асабліва сродкі іх дастаўкі.

Канцлер ФРГ Герхард Шродэр не толькі з задавальненнем пазіруе на фоне камп'ютэраў. Не без яго ўдзелу тут у даволі сціслыя тэрміны для нямецкіх бюракратычных структур распрацавалі і прынялі заканадаўства, якое дазваляе запрашаць кваліфікаваных камп'ютэршчыкаў з усяго свету. І цяпер усяляк іх заманьваюць. Гэту тактыку вядучы спецыяліст з Міністэрства эканомікі ФРГ Зігмар Масдорф расшыфраваў так:

— Галоўны сродак вытворчасці ў будучым — наш мозг. Творчыя галовы застаўляюць капіталы пускацца ў пляс. У наш час поспеху можна дабіцца толькі тады, калі супрацоўнікі ўмеюць думаць нестандартна. Там, дзе сумна, несвабодна, добрыя спецыялісты не працуюць, грашовыя пакупнікі не паказваюцца.

Стаўка робіцца не на развіццё тэхналогій, у чым Амерыку не дагнаць, а на напаўненні камп'ютэрнай сеткі рознай тэматыкай і паслугамі, ці, гаворачы вобразна, на яе "начынку".

Інфармацыйная рэвалюцыя кардынальным чынам зменіць традыцыйныя галіны вытворчасці. Вопыт і веды, атрыманыя ў "новай эканоміцы", будуць распаўсюджвацца на так званыя класічныя галіны, інтэгрыраваць іх у свае працэсы.

Пакуль не ўсюды ёсць Інтэрнет. У той жа Расіі, да якой так хінецца наша кіраўніцтва, прыкладна тры чвэрці расіян ні разу ў жыцці не карысталіся Інтэрнетам. Толькі 6,5 працэнта грамадзян гэтай краіны тым ці іншым чынам працуюць у Інтэрнеце. А гэта сведчыць, што Расія, як і многія астатнія краіны СНД ды Афрыкі, застаюцца, па сутнасці, па-за межамі інфармацыйнай рэвалюцыі. Значыць, тэхналагічны разрыў паміж найбольш развітымі краінамі і астатнім светам будзе не скарачацца, а павялічвацца, багатыя будуць багацець, бедныя — бяднець. Ці, дакладней, Еўропа і Амерыка будуць багацець, мы з Расіяй — бяднець.

Дзе ж выхад? Як папярэдзіць такое развіццё? Заходнія палітыкі і эксперты лічаць, што ўрады краін, якія сталі на шлях развіцця, павінны зрабіць усё, каб забяспечыць распаўсюджанне Інтэрнета. Для гэтага патрэбны не толькі грошы, а найперш — разуменне і палітычная воля.

Ці ёсць такое разуменне і воля ў чыноўнікаў Беларусі? Сумняваюся. Інакш яны праводзілі б "селектары" не па сяўбе і касьбе, а па інтэрнетаўскім тэхналогіям. Відаць, рэвалюцыя ў гандлі і збыце прадукцыі так жа нечакана зваліцца на нашыя галавы, як у свой час навукова-тэхнічная рэвалюцыя, падзенне Берлінскай сцяны, развал СССР, адхіленне ад улады Мілошавіча...

**Алесь ДРАБЧУК.**

ЗАМЕТКИ С НАТУРЫ

## Уик-энд с "фаустом"

В разных городах и весях Беларуси семейный отдых организуют по-разному. В Минске, например, молодую семью часто можно увидеть в популярном ресторане "МакДональдс" или прогуливающейся по парку имени Горького. Дети с удовольствием уплетают за обе щеки мороженое, родители балуются "кока-колой". А как с семейным отдыхом обстоят дела в провинции?

Свидетелем интересной сцены пришлось мне стать в одном из отдаленных от Минска поселков в солнечный субботний день. Кому-то эта сценка может показаться забавной. Мне лично кажется, что забавного в ней мало, больше — грустного.

Зайдя в местную "тошниловку" (как называют этот бар сами жители поселка. — **А.С.**), и уютно расположившись с бокалом пива за одним из столиков, наблюдаю вполне прилично одетую молодую пару с двумя детьми. Дети, войдя в бар, тут же получают свою дозу лимонада типа "Дюшес", а родители покупают себе семисотграммовую бутылку дешевого винного напитка. Как известно, в народе такие напитки обычно называют "чернилами", а бутылку объемом в 0.7 литра — "фаустом". Во времена развитого социализма все эти "фаусты" у меня неизменно ассоциировались с грязными подворотнями, краснолицыми джентльменами и соображаловками на троих.

Времена меняются! Рыночный социализм уверенно шагает по Беларуси. "Фауст" уверенно перекочевал с пустого ящика в лесном массиве на семейный стол.

Употребив 700 граммов на двоих, не сопровождая этот процесс даже видимостью закуски, с шутками и прибаутками семья отправилась на променад по центральной улице поселка...

**Александр СИЛИЧ.**

